DC
VERTIGO

# PREACHER™

NO. 1
APR 95
$2.95 US
$4.25 CAN
£2.00 UK
SUGGESTED FOR MATURE READERS

GARTH ENNIS
STEVE DILLON
ДЛЯ ДАРОСЛЫХ







ПРАПАВЕДНІК
#1
ПЕРАКЛАД:
АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ:
СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ
COMICSBY.BY
VK.COM/COMICS_BY

ГЭТА БЫЛО Ў САМЫМ ПАЧАТКУ...
ЗНАЧЫЦЬ, МЕНАВІТА Ў ГЭТАЙ ГЛУШЫ ТЫ ЗБІРАЕШСЯ ПАЧАЦЬ ПОШУКІ, ДЖЭС?
FIVE ACES DINER
ТЭХАС ЦАЛКАМ ПАДЫХОДЗІЦЬ. НЯ ГОРАЙ ЗА ІНШАЕ МЕСЦА.
НУ ТАК?
А ДЗЕ Б **ТЫ** СТАЎ ШУКАЦЬ?
ЧОРТ ЯГО ВЕДАЕ. ВЕДАЎ Я АДНАГО ХЛОПЦА, ЯКІ БЫЎ НА СТО ПРАЦЭНТАЎ УПЭЎНЕНЫ, ШТО ЗНАЙШОЎ БОГА. ПРАЎДА, ЯГО ЗАЧЫНІЛІ Ў ДУРЦЫ – НЯШЧАСНЫЯ **СЛЕПАКІ!**
Я ПАМЯТАЮ, ЁН НАСІЎ ТАКІ ВЯЛІІІКІ ЦЫЛІНДР...
І ПЯРДОЛІЎ ЦЯБЕ Ў НЯДЗЕЛЮ?
ХЕ!
ЯК Я ЧУЛА, БОГА МОЖНА ЗНАЙСЦІ Ў ДЗВУХ МЕСЦАХ: У ЦАРКВЕ І НА ДНЕ БУТЭЛЬКІ.
ТАМУ ШТО – УСІМІ ЧАРЦЯМІ КЛЯНУСЯ – У ЦАРКВЕ ЯГО НЯМА.
ТАДЫ Я, БАДАЙ, ПАЙДУ Ў КРАМУ.
У ПЕРШЫМ ГОДЗЕ...
НУ ШТО, РАБЯТЫ, ГАТОВЫ ЗРАБІЦЬ ЗАКАЗ?
ЧЫЗБУРГЕР.
МНЕ НІЧОГА, ДЗЯКУЙ.
Я БУДУ... КУРЫНУЮ САЛАТУ. ТОЛЬКІ БЯЗ КУРЫЦЫ, КАЛІ ЛАСКА.
БЯЗ КУРЫЦЫ?
НІЧОГА ІНШАГА Я ТУТ ЗАКАЗАЦЬ НЕ МАГУ. Я ВЕГЕТАРЫЯНКА.
ШТОСЬЦІ НОВЕНЬКАЕ...
АЛЕ ГЭТА БЫЛО ЧАКАНА.
МАГУ ПАЦІКАВІЦЦА, ШТО ТЫ МАЕШ НА ЎВАЗЕ?
ДАРЭЧЫ, КАЛІ ТЫ ВЕТЛІВА ПАПРОСІШ, ЯНЫ МОГУЦЬ ЗРАБІЦЬ ТАБЕ ВЕЛЬМІ СМАЧНЫ ПІРОГ З КАПУСТАЙ І АРАХІСАМ – СЛУУУХАЙ, Я ВЕДАЮ АДЗІН ЦУДОЎНЫ РЭЦЭПТ!
ЗНАЧЫЦЬ ТАК: СПАЧАТКУ ЗГАТУЙЦЕ ПІРОГ, ПОТЫМ ВЫПЯКАЙЦЕ ЯГО 40 ХВІЛІН ПРЫ ТЭМПЕРАТУРЫ 180 ГРАДУСАЎ... А ПОТЫМ ВЫШПУРНІЦЕ ГЭТА НЕЯДОМАЕ ЛАЙНО Ў АКНО, ПАДСМАЖЫЦЕ САБЕ НАРМАЛЬНЫ КАВАЛАК МЯСА І З'ЕШЦЕ ЗАМЕСТ ГЭТАЙ БРЫДОТЫ.
АЛЕ ДАВАЙЦЕ ВЕРНЕМСЯ ДА БОСКАЙ ТЭМЫ.




ТЫ ЯШЧЭ ШМАТ ЧАГО ПАВІНЕН НАМ ПАВЕДАМІЦЬ, ДЖЭСІ. ПРА ГЕНЕЗІС, ПРА АНЁЛАЎ І ГЭТАК ДАЛЕЙ...













І ЎРОК ПАЧАЎСЯ.

# У САМЫМ ПАЧАТКУ

GARTH ENNIS WRITER
STEVE DILLON ARTIST
MATT HOLLINGSWORTH – COLORIST
CLEM ROBINS – LETTERER
JULIE ROTTENBERG – ASS'T EDITOR
STUART MOORE – EDITOR
PREACHER CREATED BY
GARTH ENNIS AND STEVE DILLON

PREACHER 1. April, 1995. Published monthly by DC Comics, 1325 Avenue of the Americas, New York, NY 10019. Copyright © 1995 Garth Ennis and Steve Dillon. All Rights Reserved. All characters featured in this issue, the distinctive likenesses thereof, and all related indicia are trademarks of Garth Ennis and Steve Dillon. DC and Vertigo are trademarks of DC Comics. The stories, characters and incidents mentioned in this magazine are entirely fictional. For advertising space contact: Tom Ballou, (212) 636-5520. Printed on recyclable paper.
Printed in Canada.
DC Comics. A division of Warner Bros.–A Time Warner Entertainment Company

У НЯДЗЕЛЮ ЦАРКВА АНІВІЛЯ БЫЛА ПЕРАПОЎНЕНАЯ, І ПРЫЧЫНАЙ ГЭТАМУ БЫЎ СУБОТНІ ВЕЧАР.
РАЗУМЕЕЦЕ, У МЯНЕ БЫЛО ШТОСЬЦІ НАКШТАЛТ КРЫЗІСА ВЕРЫ, І Я ДАПАЗНА АБМЯРКОЎВАЎ ГЭТУ ПРАБЛЕМУ СА СВАІМ ДОБРЫМ СЯБРАМ ДЖЭКАМ ДЭНІЭЛСАМ...
Э-Э-Э... ПРАПАДОБНЫ КАСТАР?
"ДЖЭСІ" ЦАЛКАМ ПАДЫХОДЗІЦЬ, ЛЕАНАРД.
ДОБРА... ДЖЭСІ. ПРОСТА ВЫ ТУТ НЯ ТАК ЧАСТА З'ЯЎЛЯЕЦЕСЯ, І...
ЯКРАЗ САБРАЎСЯ ГЭТА ВЫПРАВІЦЬ. ЯК НАКОНТ КУФЛЯ ПІВА?
ЗАРАЗ ЖА...
НІЧОГА, КАЛІ Я ПРЫСЯДУ?
КАЛІ ЛАСКА.
АААААА...
ЦУДОЎНАЕ ПІВА, ЛЕАНАРД.
ЧОРТ, ДЫ ЯГО АМАЛЬ МОЖНА РАССМАКАВАЦЬ У ГЭТАЙ МАРКІТАВАНАЙ ВАДЗЕ!





П-ПРАПАДОБНЫ, Я НЯ ВЕДАЮ, ПРА ШТО ВЫ...
ОЙ, НУ ХОПІЦЬ, ЛЕНІ, УВЕСЬ ГОРАД ВЕДАЕ, ШТО ТЫ ГЭТА РОБІШ. ПРОСТА, КАБ ГЭТА АСЛІНАЯ МАЧА СКАНЧВАЛАСЯ НЯ ТАК ХУТКА, ТАК?
ТРАСЦА ВАМ У БОК, ПРАПАДОБНЫ!
У ТАКІМ МАЛЕНЬКІМ ГОРАДЗЕ САКРЭТЫ НЯДОЎГА ЗАСТАЮЦЦА САКРЭТАМІ, ТАК ЖА? А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО САМАЕ СМЕШНАЕ? ВЕДАЕЦЕ, **КАМУ** ТУТ ЗАЎСЁДЫ ДАВОДЗІЦЦА ВЫСЛУХВАЦЬ ПРАЎДУ?
МНЕ.
СТАРЫ ДОБРЫ ПРАПАДОБНЫ КАСТАР, ЯКІ СЯДЗІЦЬ У СВАЁЙ ЦАРКВЕ, ВЯСЁЛЫ НЯДЗЕЛЬНЫ БЛАЗАН! ДА МЯНЕ ДАХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ЦІ ХТО-НЕБУДЗЬ РАСКАЗВАЕ МНЕ ЎСЁ - **СТРОГА КАНФІДЭНЦЫЯЛЬНА**... ПОТЫМ Я БЯРУ Ў РУКІ ГАЗЕТУ І СКЛАДВАЮ ДВА І ДВА.
А ВЫ ЛІЧЫЦЕ, ШТО НІХТО НІ ПРА ШТО НЕ ЗДАГАДВАЕЦЦА - АСАБЛІВА ВАШ МАРКІТАВАНЫ ТУПІЦА-ПАСТАР.
МАРК! МАРК БЭНАН! ТЫ Ў ЗАКЛАД ЖОР ЛАЙНО Ў ДЗВУХ КРОКАХ АД ГЭТАЙ УСТАНОВЫ!
ДЫ... ДЫ... ДЫ **ІДЗІ ТЫ Ў ГАЙ!**
А ДЗЕ ХАРВІ?
ХАРВ, НА ТВАЕ ДАХОДЫ З ТОЙ ФЕРМЫ МОЖНА ПАЛОВУ РУАНДЫ НАКАРМІЦЬ...
ТАМ УСЁ ЗАКОННА, ПРАПАДОБНЫ.
КАНЕШНЕ, А ЯК ЖА ІНАКШ?


ВОСЬ, НАПРЫКЛАД, КІНО, ДЗЕ КЕЙТ ЗДЫМАЛАСЯ, ТАК? У ТВАІМ ХЛЕВЕ: ТОЛЬКІ ЯНА І РАБЫ ЖАРАБОК. Я ЧУЎ, ФІЛЬМ АДРАЗУ Ж ВЫЙШАЎ У ШЫРОКІ ПРАКАТ...
ДЫ Я ГЭТУ БАБУ ПЕРШЫ РАЗ ЗА ЖЫЦЦЁ БАЧУ.
А?


НЯ БУДЗЕМ ЗВЯРТАЦЬ УВАГУ НА МАЙКЛА, ЯКІ, ТРЭБА СКАЗАЦЬ, З'ЯЎЛЯЕЦЦА АДЗІНЫМ ЖЫХАРОМ АНІВІЛЯ, ЯКІ БЫЎ У КАЛІФОРНІІ, І ПЯРОЙДЗЕМ ДА ГАЛОЎНЫХ ЗОРАК НАШАГА ШОЎ...
ПРАПАДОБНЫ, ВЫ, ЗДАЕЦЦА, ТРОХІ ПЕРАБРАЛІ... ПРАПАДОБНЫ!


ПЭТ І ТЭРЫ МАРОЎ...
А ВОСЬ ЗАРАЗ ЛЕПЕЙ ЗАБІ СВАЮ МАРКІТАВАНУЮ ЗЯПУ, КАСТАР.


ХТО ЎСЁ Ж ТАКІ ЗГВАЛТАВАЎ ДЗЯЎЧЫНКУ ХІТЧАРАЎ, І ЧЫЙ ТАТАЧКА ТАК ШЧОДРА ЗАПЛАЦІЎ СУДДЗІ ШЭБІНУ?
І КОЛЬКІ ЯШЧЭ ЧАСУ ЛЮДЗІ БУДУЦЬ ЗАКРЫВАЦЬ НА ГЭТА ВОЧЫ?


Я БАЧУ ВАС КОЖНУЮ НЯДЗЕЛЮ – ПРЫНАМСІ, ТЫХ, ХТО НЕ ЛЯНУЕЦЦА ДАЦЯГНУЦЬ СВАЮ ДУПУ ДА ЦАРКВЫ. А ВЫ ЛІЧЫЦЕ, ШТО ДАСТАТКОВА СПЕЦЬ НЕКАЛЬКІ ПСАЛМОЎ – І МОЖНА СА СПАКОЙНЫМ СУМЛЕННЕМ ЛЮТАВАЦЬ АСТАТНІЯ ШЭСЦЬ ДЗЁН?
Я **ВАР'ЯЦЕЮ** АД ВАШАГА МАРКІТАВАНАГА **ЛАЙНА**, І Я ПРЫЙШОЎ СЮДЫ, КАБ СКАЗАЦЬ ВАМ: ТАК БОЛЕЙ НЕЛЬГА...






ГГГГАД ТЫ ПЕЧАНЫ!
НЕ!


МОЙ БАР – НЯ МЕСЦА ДЛЯ ТАКІХ РЭЧАЎ.
ТЫ ЧУЎ, ШТО СКАЗАЎ ГЭТЫ ЛАЙНЮК?
МЫ НЕ ВІНАВАТЫЯ!


ЁН БОЛЬШ НІЧОГА НЯ МОЖА СКАЗАЦЬ. ХОПІЦЬ, ПАКІНЬЦЕ ЯГО Ў СУПАКОІ.


ЛЮБА.
Я ЗАЎСЁДЫ ТАКІ СЕНТЫМЕНТАЛЬНЫ, КАЛІ НАП'ЮСЯ.
А ДОБРЫ СТАРЫ ЛЕАНАРД ВЫРАТАВАЎ ТВАЮ ДУПУ. І ГЭТА ПАСЛЯ ТАГО, ШТО ТЫ СКАЗАЎ ПРА ЯГО ПІВА.


ТАК, ДЛЯ ЛАЙНЮКА, ЯКІ РАЗВОДЗІЦЬ ПІВА, ЁН БЫЎ НЕ ТАКІ Ж І ДРЭННЫ.
ПРЫБЛІЗНА Ў ГЭТЫ ЧАС ГЕНЕЗІС І ВЫРВАЎСЯ НА ВОЛЮ. ЯК ГЭТА ЗДАРЫЛАСЯ, СКЛАДАНА ЎЯВІЦЬ.

ЦАРСТВА НЯБЕСНАЕ.

І МЫ ЛІЧЫМ, ШТО ЁН ВЫРВАЎСЯ ДЗЕСЬЦІ... **ТУТ**.

ТЫ ЎПЭЎНЕНЫ, ПІЛА? ВОСЬ ПРАМА ТУТ?

ТАК! Я ДВОЙЧЫ ПРАВЕРЫЎ РАЗЛІКІ.

ІСУС УСЁМАГУТНЫ...

ТЫ ЎЖО КАМУ-НЕБУДЗЬ ПРАБАЛБАТАЎСЯ ПРА ГЭТА? КАМУ?

НІКОМУ, ДЭБЛАНК.

ТАМУ ШТО МЕНШ УСЯГО НА СВЕЦЕ Я ЖАДАЮ, КАБ СЕРАФІМЫ ДАВЕДАЛІСЯ ПРА ГЭТА. КАЛІ ХОЦЬ АДЗІН З ІХ ШТО-НЕБУДЗЬ ПРАНЮХАЕ, НАС УСІХ ПАРВУЦЬ ЯК...

ЛЯЦІЦЬ... ЗЗАДУ... ГАМОН.



ВОХХХ... ШТО...?

ГЭТА РАНЕЙ БЫЛО МАІМ БРАТАМ. УСЯГО ГАДЗІНУ ТАМУ МЫ ПАТРУЛЯВАЛІ З ІМ СТРАТАСФЕРУ, КАЛІ ВАША **НЕШТА** СА ЗВЫШГУКАВАЙ ХУТКАСЦЮ ПРЫЛЯЦЕЛА З БОКУ ЎЗЫХОДНАГА СОНЦА І ПРЫКОНЧЫЛА ЯГО.

І ШТО ВЫ МОЖАЦЕ СКАЗАЦЬ НАКОНТ ГЭТАГА?

ТЫ КАЖАШ, ГЭТА ГЕНЕЗІС ЗРАБІЎ?

ТАК. ВЫРАДКАВЫ ШЧАНЮК, ЗА ЯКІМ ВЫ, МАРКІТАВАНЫЯ ПІЖОНЫ, ПАВІННЫ БЫЛІ НАЗІРАЦЬ. КАМЕТА З ДЗІЦЯЧЫМ ТВАРАМ.

**ГЕНЕЗІС.**


МЫ НЯ МОЖАМ ВЕДАЦЬ НАПЭЎНА...
МЫ **НІЧОГА** НЯ ВЕДАЕМ НАПЭЎНА. АЛЕ ВАМ, ДЗЁЎБАНЫ ГУРТ ПСІХАПАТАЎ, ЛЕПЕЙ ВЯРНУЦЬ ГЕНЕЗІС НАЗАД, ПАКУЛЬ ЁН НЕ НАРАБІЎ СПРАЎ НА ЗЯМЛІ. ПАЧАЦЬ ТРЭБА **ЗАРАЗ ЖА**.
І ПАМЯТАЙЦЕ, ХТО ТУТ ГАЛОЎНЫ.


ІХ ТОЛЬКІ ПАКІНУЛІ ЗА **ГАЛОЎНЫХ**.
А ТАБЕ ПАТРЭБНЫ ЯШЧЭ НЕЙКІЯ ПАЎНАМОЦТВЫ?


ЗАРАЗ САМАЕ ГАЛОЎНАЕ – АБЫХОДЗІЦЦА З СЕРАФІМАМІ ПАДАЛІКАТНЕЙ.
ЗАРАЗ САМАЕ ГАЛОЎНАЕ – ВЯРНУЦЬ ГЕНЕЗІС, І ЯК МАГА ХУТЧЭЙ. ТЫ ВЫВУЧАЎ ЯГО. ШТО ЯМУ ПАТРЭБНА НА ЗЯМЛІ?


ДУША.
ШТО-ШТО?


МАЕ ДАСЛЕДАВАННІ ПАКАЗАЛІ, ШТО Ў ГЕНЕЗІСА РАЗВІЛАСЯ САЛІДАРЫЗАЦЫЯ З ЧАЛАВЕЧЫМІ ІНТАРЭСАМІ; НАВАТ З'ЯВІЛІСЯ ЗАРОДКІ МАРАЛІ, ВІДАВОЧНА, АТРЫМАНЫЯ Ў СПАДЧЫНУ АД АБОДВУХ БАЦЬКОЎ.
ЁН ПАСПРАБУЕ ЗЛУЧЫЦЦА СЯБЕ З ЦАЛКАМ РАЗВІТЫМ УРАЗУМЕННЕМ.
З ДУШОЙ.




ГЭТА НЕЛЬГА ДАПУСЦІЦЬ.
КАЛІ... **ГЭТА ІСТОТА** СТАНЕ ПАЎНАВАРТАСНАЙ ДУХОЎНАЙ ІСНАСЦЮ, МЫ БУДЗЕМ У ЛАЙНЕ. ТРЭБА ПАСЛАЦЬ ЗА ІМ КАГО-НЕБУДЗЬ...
КАГОСЬЦІ, ХТО НЯ ВЕДАЕ ПРОМАХАЎ...


ТАГО, КАГО НЕМАГЧЫМА СПЫНІЦЬ...
ГЭЙ, ПРЫТРЫМАЙ КОНЕЙ!...


ПІЛА?
ММ?
ТЫ НЯ МОЖАШ...
Я ПАВІНЕН, ФІЁР.


У МЯНЕ ЁСЦЬ ПРАЦА ДЛЯ ЦЯБЕ, СЯБРА...
УСЁ, ШТО ПАЖАДАЕШ, ДЭБЛАНК! ТЫ Ж ВЕДАЕШ – ТОЛЬКІ ПАПРАСІ.


ІДЗІ НА ДАЛЁКІЯ МОГІЛКІ І РАЗБУДЗІ СВЯТОГА АПЕКУНА ЗАБОЙЦАЎ.


Я?!


ДЫК ВОСЬ, Я ПРАЧНУЎСЯ ЛЯ ЦАРКВЫ, У ЛУЖЫНЕ ВАНІТ – КАЛЯ ШАСЦІ ГАДЗІН РАНІЦЫ. А СЛУЖБА ЗВЫЧАЙНА ПАЧЫНАЕЦЦА Ў ДЗЕВЯЦЬ...
ГЭЙ-ГЭЙ-ГЭЙ, ПАЧАКАААЙ-КА.


ДАВАЙ МЫ ПАКІНЕМ ЦЯБЕ Ў ЛУЖЫНЕ ВАНІТ НА НЕКАТОРЫ ЧАС. ЗАРАЗ НАША З ЦЮЛІП ЧАРГА.
НУ І ШТО? ГЭТА НЯ МАЕ НІЯКАГА ДАЧЫНЕННЯ ДА ДЖЭСІ, І...
НУ, ГЭТА НЕ Я ПРЫДУМАЎ "РАСКЛАСЦІ ЎСЁ ПА ПАЛІЧКАХ"...


ТЫ ЗУСІМ НЕ АБАВЯЗАНА...
ДЫ НЕ, УСЁ НАРМАЛЬНА.
ЦУДОЎНА! Я ПРЫЕХАЎ З ДАЛАСА – МНЕ ТЭРМІНОВА ТРЭБА БЫЛО ЗМЯНІЦЬ ДЫЕТУ...


ХТО Б СУМНЯВАЎСЯ.
Я... Я ПРЫЙШЛА ДАКЛАДНА Ў ПРЫЗНАЧАНЫ ЧАС, – А ТЫ ВЕДАШ, ДЖЭСІ, ШТО ГЭТА ЗУСІМ НЕ ПАДОБНА НА МЯНЕ, – І ЁН З'ЯВІЎСЯ ЯКРАЗ ТАДЫ, КАЛІ ПАВІНЕН БЫЎ...
ВУСЦІШНА БЫЛО?


ТОЛЬКІ НЯ ГЭТА.
BAR
ВОСЬ ЛАЙНО.




11
16


ГЭТА САПРАЎДЫ ЁН.
ЧОРТ, Я І САПРАЎДЫ ВЫМУШАНА ЗРАБІЦЬ ГЭТА.




ПРАБАЧЦЕ, МЭ-ЭМ?
ТАК?


ЯК ВЫ ЛІЧЫЦЕ, ВЫ ЗМОЖАЦЕ ЗАСУНУЦЬ У РОТ ШТУКУ ПРЫКЛАДНА ТАКОЙ ТАЎШЧЫНІ? ТАМУ ШТО, КАЛІ ТАК, ТО Я НА ВАС ЖАНЮСЯ...


НАПРАМІЛЫ БОЖА!


ВОСЬ ПАДЛА!




ЧАГО ТЫ СЯДЗІШ, МАРКІТАВАНЫ ПРЫ-ТЫРАК, – **УЗЯЦЬ ЯЕ!**




ХХХ...
...МММ...


І ШТО ГЭТА БЫЛО – ЗАМАХ?




ДОБРА, ДАВАЙЦЕ ДАДАЗІМ ГЭТАЙ ГІСТОРЫІ ТРОХІ ШЫКУ І ЎВЯДЗЕМ У АПАВЯДАННЕ ІРЛАНДСКАГА ХЛОПЦА.
ЕДУ Я, ЗНАЧЫЦЬ, НІКОГА НЕ ЧАПАЮ...


THESE ROSES WITHER MAY GOD DELIVERS THE RAKE AT THE GATES OF HELL TONIGHT!
G E


БО-О-ОЖА...
АДДАВАЙ ТАЧКУ! **А НУ ХУТКА ВЫЛАЗЬ З ТАЧКІ!!!**


НЕ-А.


О БОЖА... МНЕ ТРЭБА **ВЫБРАЦЦА** АДСЮЛЬ...
ХА! ДЫК У ЧЫМ ЖА СПРАВА? ЗАЛАЗЬ.
МАРКІТАВАНАЯ **САМАДАЙКА!**


ГАНІ!
МММФФ...


ВЯЛІКІ **ДЗЯКУЙ** ЗА...
НЯ ТРЭБА ПАДЗЯК. ТЫ ЗМАГЛА АЖЫВІЦЬ ВЕЛЬМІ СУМНЫ ВЕЧАР, ДУША МАЯ.
ЦЮЛІП.


КЭСІДЗІ.




Я НАВАТ НЯ ВЕДАЛА, ШТО ЁН У ЦЯБЕ ТРАПІЎ.
УСЯГО ТОЛЬКІ РАЗОЧАК. А ЗАРАЗ ДАВАЙЦЕ ВЕРНЕМСЯ ДА ДЖЭСІ І ЯГО ЛУЖЫНЕ ВАНІТ.
...
РАНЕЙ ТЫ НЕНАВІДЗІЛА ЗБРОЮ, ЦЮЛІП.




А Я ВЕДАЮ КАГОСЬЦІ, ХТО ВЕЛЬМІ КАХАЕ ЗБРОЮ.
ММ? АХ ТАК!


НАПРАМІЛЫ БОЖА, НАМ АБАВЯЗКОВА ПРА ЯГО ЎСПАМІНАЦЬ?
НУ, РОЛЯ Ў ЯГО НЯМАЛАВАЖНАЯ.
ЯГО **ГОЛАС** – ВОСЬ, ШТО САПРАЎДЫ ПРАНІМАЕ ДА КОСТАК.


"ГЭТЫ ШЭПТ, ШТО СКРЫГОЧА – ПЫРСКІ ПЕКЛА; ЗАХУТАННЫЯ Ў ПАВУЦІННЕ ПРЫВІДЫ, ЯКІЯ ЎПАЎЗАЮЦЬ ТАБЕ Ў ВУШЫ..."


О... АДАЧЫНІСЯ!






АБУДЗІСЯ!



ЗА ШТО?
ЗВЫЧКА.
ЧЫМ МАГУ ДАПАМАГ-ЧЫ?

ПА... ПАЧУЙ НАША ГУКАННЕ, О АПЯКУН ЗАБОЙЦАЎ. ТЫ СПАЎ ПАД ГЭТЫМ УЗГОРКАМ, ТЫ ЧАКАЎ – АЛЕ ЦЯПЕР Я ПРЫЙШОЎ ЗА ТАБОЙ.
ТВАЯ ДАПАМОГА ЗНОЎ ПАТРЭБНА НАМ.

З ЧАГО Б ГЭТА?
СЛУХАЙ.

НЕШТА ВЫРВАЛАСЯ З НЯБЕСНАГА ЦАР-СТВА, І ГЭТА ІСТОТА ПРЫБУДЗЕ НА ЗЯМ-ЛЮ СЁННЯ НОЧЧУ. ЯГО ІМЯ – ГЕНЕЗІС. ЁН ВЕЛЬМІ МОЦНЫ.
МОЦ ЯГО РАЎНАВАЖНА МОЦЫ ГОСПАДА ЎСЁМАГУТНАГА. ГЕНЕЗІС ШУ-КАЕ ЎЗ'ЯДНАННЯ З ДУШОЙ СМЕРТНАГА. КАЛІ ЁН ДАСЯГНЕ ПОСПЕХУ, ІМ АБОД-ВУХ БУДУЦЬ ВЯДОМЫ ЎСЕ ТАЙНЫ РАЮ, ШТО З ПАЧАТКУ ЧАСОЎ БЫЛІ СХАВАНЫ АД ЧАЛАВЕКА.
І ТАДЫ НАМ УСІМ **ГАМОН**.


ДЫК ІДЗІ Ж І ЗНАЙДЗІ ЯГО, І, КАЛІ ЁН САПРАЎДЫ ЎЗ'ЯДНАЎСЯ З ЧАЛАВЕКАМ...
ЗАБІ ЯГО.


ВЕДАЕШ...
ГЭТА НЕСУМЛЕННА...


Я АДЗІН З АДЭФІ... АДЗІН З МНОСТВА АНЁЛЬСКАГА...
Я НІКОЛІ НАВАТ У ДУМКАХ НЕ ГРАШЫЎ... ЗАЎСЁДЫ РАБІЎ, ШТО ЗАГАДВАЛІ... І НІКОЛІ НЯ ЖАЛІЎСЯ... А ЦЯПЕР Я ПАМІРАЮ ТУТ, У ГЭТАЙ ЦЁМНАЙ ГЛУХМЕНІ, І МАЕ МАЗГІ СЦЯКАЮЦЬ ПА СЦЕНЦЫ...
НУ І ЯК ГЭТА НАЗЫВАЕЦЦА, А?


ЯК... ГЭТА...


...НАЗЫВАЕЦЦА-А...


ДОБРЫ ПАЧАТАК.




УСЕ ЖЫХАРЫ АНІВІЛЯ ПРЫЙШЛІ Ў ЦАРКВУ ТОЙ РАНІЦАЙ. УСЕ. ЗВЫЧАЙНА МАЕ ПРОПАВЕДЗІ СЛУХАЮЦЬ ЧАЛАВЕК ДВАЦЦАЦЬ. А Ў ГЭТЫ РАЗ ПРЫПЕРЛІСЯ АЖ ДЗВЕ СОТНІ.
ТАМУ, ЦІ МАЕ МАЛІТВЫ БЫЛІ ПАЧУТЫ, І НА ЎВЕСЬ ГОРАД СЫШЛО ПРАСВЯТЛЕННЕ...


...ЦІ ЎЖО ЎСЕ ВЕДАЛІ, ШТО ІХ ПАСТАР ЗВАР'ЯЦЕЎ.
"ПРАПАДОБНЫ КАСТАР З ГЛУЗДУ З'ЕХАЎ! ПАЙШЛІ ПАГЛЯДЗІМ - МАБЫЦЬ, ЁН ПАДРОЧЫЦЬ НА БІБЛІЮ, ЦІ ЯШЧЭ ШТО-НЕБУДЗЬ ВЯСЁЛАЕ ЎЧЫНІЦЬ!"
Я МЕРКАВАЎ, ШТО ДРУГІ ВАРЫЯНТ БОЛЬШ МАГЧЫМЫ, АЛЕ НАДЗЕЯ ПАМІРАЕ АПОШНЯЙ...


УБАЧЫЎШЫ ВЫРАЗЫ ІХ ТВАРАЎ, Я ЗРАЗУМЕЎ, ШТО, КАЛІ МАЕ МАЛІТВЫ І ДАЙШЛІ ДА БОГА, ЁН, ВІДАВОЧНА, ВЫКАРЫСТАЎ ІХ НЕ ПА ПРЫЗНАЧЭННІ.
Э-Э... ДОБРАЙ РАНІЦЫ.


ВЕЛЬМІ...
ВЕЛЬМІ ПРЫЕМНА, ШТО ВАС, РАБЯТЫ, СЁННЯ ТАК ШМАТ...


ВЫКЛЮЧНА ДЗЕЛЯ ЦІКАЎНАСЦІ: ПРА ШТО БЫЛА ПРОПАВЕДЗЬ У ТОЙ ДЗЕНЬ?
ПРА ПРАБАЧЭННЕ.
АЛЕ ГЭТА НЯВАЖНА, ТАМУ ШТО ДАЛЕЙ...





ГХХ...ФФФ...
АААААААА...
ПРАПАДОБНЫ КАСТАР!!!
ШТО ЗА ЛАЙНО АДБЫВАЕЦЦА З ПАСТАРАМ?
ШТО ЁН ЖАДАЕ СКАЗАЦЬ?







БОЖА МОЙ...!


КЭСІДЗІ ЗВЯРНУЎ З АБОЧЫНЫ НЯЗАДАЎГА ДА ЎСХОДА СОНЦА. ПОТЫМ ЗАБРАЎСЯ Ў КУЗАЎ, НАКРЫЎСЯ БРЫЗЕНТАМ І ПРЫМУСІЎ МЯНЕ ПАКЛЯСЦІСЯ, ШТО Я НЕ ДАКРАНУСЯ ДА ЯГО.
А ПОТЫМ Я ЎБАЧЫЛА ПАЖАР.
І ШТО, ЯГО ПАВОДЗІНЫ НЯ ВЫКЛІКАЛІ Ў ЦЯБЕ НІЯКІХ ПАДАЗРЭННЯЎ?


ШТО, КАЛІ ЧАЛАВЕК ТАК СПІЦЬ, ГЭТА ПАВІННА ВЫКЛІКАЦЬ НЕЙКІЯ ПАДАЗРЭННІ? УВОГУЛЕ, НЕ АДРАЗУ ПРЫХОДЗІЦЬ У ГАЛАВУ...
ДОБРА, **ДОБРА**...


ГЭЙ! **ГЭЙ!**
ТАМ ДЗЁУБАНЫ **ЯДЗЕРНЫ ГРЫБ** НАПЕРАДЗЕ...


ДЫ МНЕ **ДА ДУПЫ**! СТОП!
ТЫ НЕ ЗАБАРАНЯЎ МНЕ САДЗІЦЦА ЗА РУЛЬ. ТЫ ТОЛЬКІ СКАЗАЎ...
Я ЛІЧЫЎ, **ШТО ГЭТА І ТАК ЗРАЗУМЕЛА**!


ЦЮЛІП, У АПОШНІ РАЗ ПАПЯРЭДЖВАЮ: **ЗАРАЗ ЖА** ЗВЯРНІ НА АБОЧЫНУ, ЦІ НАРАКАЙ НА СЯБЕ!


Я ГЛЯДЖУ, ТЫ НЕ СПЫНІЛАСЯ, ТАК?
WELCOME TO
ANNVILLE


ПРОСТА, КУРВІСКА, **ЧАРОЎНА**!
Я РАТУЮ ТВАЮ ДУПУ, ДАПАМАГАЮ ЎЦЯЧЫ З ТОЙ КРЫВАВАЙ ЛАЗНІ, ВЯЗУ ЦЯБЕ ПРАЗ ПАЛОВУ ТЭХАСА – ПРЫ ГЭТЫМ НІЧОГА НЕ ПЫТАЮ – І ШТО Я АТРЫМЛІВАЮ Ў ЯКАСЦІ ПАДЗЯКІ?
КАРАЦЕЙ КАЖУЧЫ, МІЛКА: ЯК ТОЛЬКІ СОНЦА СЯДЗЕ, МЫ РАЗЫДЗЕМСЯ ЯК У МОРЫ КАРАБЛІ...


СЮДЫ ШТО, **БОМБА** ТРАПІЛА?


КАЛІ ТАМ УСЁ САПРАЎДЫ ВЫГЛЯДАЕ ТАК ДРЭННА, ЯК ТЫ КАЖАШ, У ЛЮБЫ МОМАНТ МОЖА ЗДАРЫЦЦА НЕЙКАЕ ЛАЙНО.
ТАМУ ВАЗЬМІ ПІСТАЛЕТ, А? Я НЕ ТУРБУЮСЯ, МНЕ, ЎВОГУЛЕ, УСЁ РОЎНА...
ЦЮЛІП.








ВОХХХ...


НЕ ВАРУШЫСЯ!


...
ДЖЭС!?


МАРКІТАВАНЫ ДЖЭСІ КАСТАР!


ПРАБАЧЦЕ, СПАДАРЫ, АЛЕ Я ЗДОХ-
НУ, КАЛІ НЕ ВАЗЬМУ Ў РОТ... ЦЫГА-
РЭТУ – УТРЫМАЙЦЕСЯ АД ПОШЛАСЦІ,
МАЕ ЗААКІЯНСКІЯ СЯБРЫ. ПАЧАКАЙЦЕ
ЎСЯГО ХВІЛІНУ, І...
НЕ...
АЎТАМАТ НЯ
ДЗЕЙНІЧАЕ. ДАВАЙ Я
ПРАГУЛЯЮСЯ ДА КРА-
МЫ. "МАЛЬБАРА"?

"КЭМЭЛ".

ШТО Ж,
ВАНДРОЎНІК...

Я НЯ МОГ НЕ ЗАЎВАЖЫЦЬ,
ШТО ПРА МЯНЕ ТЫ НЕ
СКАЗАЎ ПАКУЛЬ НІ СЛОВА.


ЗДАЕЦЦА, ТВОЙ БЫЛЫ
ЗУСІМ НЕ ЖАДАЕ ЗАСТАВАЦЦА
З ТАБОЙ САМ-НАСАМ.
ТЫ САМЫ
НАДЗВЫ-
ЧАЙНЫ ЛАЙ-
НЮК У СВЕ-
ЦЕ, ТАК?
БЫВАЮЦЬ
І ГОРАЙ.

ЗАПЫТАЙ МЯНЕ,
І Я АДКАЖУ:
ГЭТА ПРАЦА
ЧАРНАДУПЫХ.

ЧАМУ ВЫ ТАК ЛІЧЫЦЕ,
ШЭРЫФ РУТ?
ГЭТЫМ ЯНЫ
ЗАЎСЁДЫ І
ЗАЙМАЮЦЦА.
ШТО, ШТОДЗЕНЬ
СПАЛЬВАЮЦЬ
ЖЫВЫМІ ДЗВЕ
СОТНІ ЛЮДЗЕЙ.
НІЧОГА САБЕ!

**МАРСІЯНСКІЯ
НІГЕРЫ**, КЕНІ.
ЦЬФУ!
УРАД І ФБР ВЕДАЮЦЬ ШМАТ
УСЯЛЯКАГА ЛАЙНА, ТОЛЬКІ АД
НАС УСЁ ХАВАЮЦЬ. НАПРЫКЛАД,
У ГАЛОЎНЫМ АНГАРЫ У ІХ ЁСЦЬ
ЛЯТУЧАЯ ТАЛЕРКА, А Ў ЁЙ –
ЗДОХЛЫ МАРСІЯНСКІ НІГЕР. АЛЕ
НАРОД ЯШЧЭ НЕ ПАДРЫХТАВАНЫ
ДА ТАКОГА...
ШЭРЫФ
РУТ?


МІКЕР СКАЗАЎ, ШТО КАРЛІНГТАН ВЫСЫЛАЕ ШРУБАЛЁТ СА СПЕЦПРЫЗАМ, І ЎВОГУЛЕ ЎСІХ, КАГО ЗМОЖА ЗНАЙСЦІ. ЯШЧЭ ЁН ЖАДАЕ, КАБ ВЫ ПАГУТАРЫЛІ З ЖУРНАЛІСТАМІ...
СКАЖЫ ЯМУ, ХАЙ ІДЗЕ ДА ЛІХАМАТАРЫ.
ТАК І ПЕРАДАЙ: Х'ЮГА РУТ КАЖА ТАБЕ ІСЦІ ДА ЛІХАМАТАРЫ. А КАЛІ Я ЎБАЧУ ТУТ ХОЦЬ АДНАГО ЛАЙНЮКА-ЖУРНАЛІСТА, Я СКРУЧУ ЯГО Ў САСІСКУ І ЗАПХНУ ГЭТАМУ ПІДАРУ Ў ДУПУ.
ВЫ СКАЗАЛІ ФБР ПРА ГЭТЫ ІНЦЫДЭНТ?
ЧОРТ, ТАК. ТЫ Ж ВЕДАЕШ ПРАВІЛЫ.
WAY
МАБЫЦЬ, УЛІЧВАЮЧЫ МАРКІТАВАНУЮ СУР'ЁЗНАСЦЬ СІТУАЦЫІ, ВАРТА СПАЧАТКУ ДАЧАКАЦЦА ФЕДЭРАЛАЎ, А ЎЖО ПОТЫМ ЗНІШЧЫЦЬ УСЁ ЖЫВОЕ Ў РАДЫЎСЕ ПЯЦІДЗЕСЯЦІ МІЛЬ?
ЛІЧЫШ, ШТО Я КВОЛЫ, КЕНІ?


Я ПРОСТА КАЖУ, ШТО ГЭТА ЎСЁ ЛАЙНОВА ВЫГЛЯДАЕ, І МЫ, МАБЫЦЬ, НЯ ЗДОЛЕЕМ САМАСТОЙНА...
А Я, МАБЫЦЬ, ЗАЎТРА ВЫСЯРУ КЛЮЧЫ АД ДЫСНЕЙЛЭНДА. ТОЛЬКІ Я Ў ГЭТЫМ СУМНЯВАЮСЯ. **МАРСІЯНСКІЯ НІГЕРЫ**, КЕНІ...
PFFT


ХУТКА САМ УБАЧЫШ.




А ТЫ НЯ ВЕЛЬМІ СПЯШАЎСЯ.
АМАЛЬ УСЮДЫ БЫЛО ЗАЧЫНЕНА. НА ЧЫМ МЫ СПЫНІЛІСЯ?


Я **НЯ ВЕДАЮ**, ЧАМУ ЁН АПРАНУТЫ, ЯК СВЯТАР, АЛЕ ГЭТЫ ПРЫТЫРАК – МОЙ БЫЛЫ **ХЛОПЕЦ**, ЗРАЗУМЕЎ?


І ТАМУ ТЫ ВЫРАШЫЛА ВЕЗЦІ ЯГО Ў БАЛЬНІЦУ НА **МАІМ** ГРУЗАВІКУ, ТАК? І ЧАМУ "БЫЛЫ"?
ЁН УЦЁК АД МЯНЕ.
АД ТАКОЙ СЛАЎНАЙ ДЗЯЎЧЫНКІ?
ВЫБІРАЙ ВЫРАЗЫ!
МЫ Б УЖО ПРЫЕХАЛІ Ў ГЭТЫ ДЗЁЎБАНУЮ БАЛЬНІЦУ, КАЛІ Б ТЫ НЕ ПРЫМУСІЎ МЯНЕ СПЫНІЦЦА.
ДЫ Я ГЭТАГА ВЫРАДКА ЎПЕРШЫНЮ БАЧУ. ТЫ, ЗДАЕЦА, СПАДЗЯВАЕШСЯ, ШТО Ў ЯГО НА ЦЯБЕ ЗНОЎ УСТАНЕ – А МНЕ З ГЭТАГА ШТО?


ІДЗІ... ТЫ... **У ГАЙ!**
АГА! ЗНАЧЫЦЬ ЯГО СВЯТАСЦЬ ЦЯБЕ КІНУЎ – АЛЕ ТЫ ЎСЁ РОЎНА ГАТОВА ЗДОХНУЦЬ, КАБ АДВЕЗЦІ ЯГО Ў БАЛЬНІЦУ. А Я, ПАСЛЯ ТАГО, ШТО Я ДЛЯ ЦЯБЕ ЗРАБІЎ, ПАВІНЕН ПРОСТА ІСЦІ **Ў ГАЙ**?


ПЯРДОЛІЎ Я Ў РОТ ТАКІЯ АЛАДКІ, МІЛКА! БЯРЫ СВАЙГО ПАСТАРА, І МОЖАЦЕ ПАЧЫНАЦЬ ГАЛАСАВАЦЬ. ВЫ...
ААААААА!
КУРВІСКА!
БОЖА!


КУРВІСКА! ГАЛАВА...
ТЫ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ТАБЕ ДАЗВОЛЕНА ТАК БРУДНА ЛАЯЦЦА?
ДЖЭС?
ЦЮЛІП?
АДЧАПІСЯ АД МЯНЕ! БОЖА, ДЫ ШТО З ТАБОЙ?
ЦН--
Я НЯ ВЕДАЮ...
У МЯНЕ ШТОСЬЦІ З ГАЛАВОЙ... БЫЦЦАМ Я ЎСПОМНІЎ УСЁ ТОЕ ЛАЙНО... ТОЛЬКІ... ГЭТА НЕ МАЕ ЎСПАМІНЫ, ЯНЫ АДНЕКУЛЬ ЗВОНКУ.
ЧОРТ, ГЭТА БАЛЮЧА! ГОЛАС... КАЖА... МНЕ...
ДАЙ ЗДАГАДАЮСЯ! ГЭТА БОГ. ЁН КАЖА ТАБЕ, ШТО ЎСЕ БАБЫ - САМАДАЙКІ, І ЖАДАЕ, КАБ ТЫ ІХ ПАКАРАЎ.
ЗАБІ ЗЯПУ.
ШТО ЁН КАЖА ТАБЕ, ДЖЭС?
ЛУХТУ, У ЯКУЮ ВЫ НЕ ПАВЕРЫЦЕ.
ПРА ХЛОПЦА І ДЗЯЎЧЫНУ, ЯКІЯ ЗАКАХАЛІСЯ І ФАЙНА ПАВЕСЯЛІЛІСЯ...
І Ў ІХ БЫЛО ДЗІЦЯ...
І НЕШТА ВАРТАЕ ХАВАЕЦЦА ЗА ЎСІМ ГЭТЫМ, НЕШТА, ШТО НІХТО НЕ ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ...
АЛЕ, ШТО Б ГОЛАС НІ КАЗАЎ МНЕ, ЁН ГУЧЫЦЬ...
ГУЧЫЦЬ, ЯК СЛОВА БОСКАЕ.


Я Ж КАЗАЎ ТАБЕ! ЁН ЗУСІМ ЛЯСНУЎСЯ!


ЁН ЗАЎСЁДЫ БЫЎ ТРОХІ... ЭММ... ЭКЛЕКТЫЧНЫ.
У КОЖНАЙ КРАІНЕ, КАБ БЫЦЬ ЭКЛЕКТЫЧНЫМ, ДАСТАТКОВА НАБЫЦЬ АЛЬБОМ RED HOT CHILI PEPPERS. А Ў ЯГО УСЕ МАРКІТАВАНЫЯ ШАРЫКІ ЗАЕХАЛІ ЗА ЧОРТАВЫ РОЛІКІ...
УСЁ НЯ ТАК ПРОСТА. МНЕ ЦІКАВА...
ТЫ МАЕШ НА ЎВАЗЕ ТУЮ САМУЮ ЦІКАЎНАСЦЬ, ЯКАЯ ПРЫМУСІЛА ЦЯБЕ ЗАГНАЦЬ МОЙ ГРУЗАВІК У МАРКІТАВАНУЮ МЁРТВУЮ ЗОНУ?
ДЗЕЛЯ БОГА, ЦЮЛІП, ГЭТЫ ХЛОПЕЦ У ЛАЙНЕ ПА САМЫ ВЯРШОК! А ГЭТА ЗАЦІКАЎЛЕНАСЦЬ НЯ ТОЛЬКІ ЗАБ'Е КОШКУ, ЯНА ЯШЧЭ АДКУСІЦЬ ЁЙ ГАЛАВУ І БУДЗЕ ЗДЗЕКЛІВА ПЯРДОЛІЦЬ ЗГАДЖАНЫ ТРУП ДА САМАГА СВІТАНКУ!
КАРАЦЕЙ, Я ПАЙШОЎ... ВОЙ, ПАЧАКАЙ, ШТОСЬЦІ КОПАМІ ЗАСМЯРДЗЕЛА...
А?
ТЫ ПРА ШТО?






НЕ РАСПАЧЫНАЙЦЕ СПРОБ ДА ЎЦЁКАЎ! РУКІ ПАКЛАСЦІ НА ГРУЗАВІК, НОГІ РАССУНУЦЬ! ЗАРАЗ ЖА!
У ВЫПАДКУ НЕПАДПАРАДКАВАННЯ Я ПАЧЫНАЮ АГОНЬ!


ШТОСЬЦІ ЯНЫ НЯ ВЕЛЬМІ ЧОРНЫЯ, ШЭРЫФ.
МАРСІЯНСКІЯ НІГЕРЫ НЕ ЗАЎСЁДЫ ЧОРНЫЯ. І ЯНЫ АДЗІНЫЯ, КАГО МЫ ЗНАЙШЛІ Ў РАДЫЎСЕ ПЯЦІДЗЕСЯЦІ МІЛЬ.


НЕ ВАРУШЫСЯ, ХЛОПЕЦ! ЯШЧЭ АДЗІН КРОК - І Я ТАБЕ ГАЛАВУ ЗНЯСУ!
О, БОЖА! ТОЛЬКІ НЯ ЗАРАЗ!
БЛЯХА, ДЫ ЯНЫ ПАЎСЮЛЬ! ШТО ГЭТА ЗА, КУРВІСКА, "ДАРОЖНЫ ПАТРУЛЬ"?


КІНЬЦЕ ЗБРОЮ, УСЕ ДА АДНАГО!
І ДАЙЦЕ НАМ СЫСЦІ!




"...ЯК СЛОВА БОСКАЕ..."


ЖАДАЮ ЗАЎВАЖЫЦЬ, ШТО Я Б З РАДАСЦЮ ЗВАЛІЎ БЫ АДСЮЛЬ.


НУ ДОБРА.
ЯК-НЕБУДЗЬ ПЕРАЖЫВУ ЯШЧЭ АДНАГО ЛЯСНУТАГА.
ВЕЛЬМІ ЎДЗЯЧНЫ.


ВАЧАМ НЯ ВЕРУ! ХАПАЙЦЕ СВАЮ МАРКІТАВАНУЮ ЗБРОЮ, ПРЫТЫРКІ!
СХАПІ СВАЮ.


УЖО ВЫЗНАЧЫЎ, КУДЫ ЕДЗЕШ?


ВЫРАШАЙ САМ, ПРЫЯЦЕЛЬ.
























ПРАЦЯГ БУДЗЕ.